Як гэта было

# 60 гадоў таму прагучалі першыя залпы другой сусветнай вайны

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.)

Аказанне мяркуемай савецкай дапамогі было звязана з парушэннем граніц Польшчы і балтыйскіх краін (без згоды ўрадаў гэтых краін). Аднак думка аб увядзенні вайсковых часцей Чырвонай Арміі на тэрыторыю сумежных краін усё больш авалодвала Сталіным і Молатавым — кіраўніком савецкага ўрада і адначасова народным камісарам замежных спраў.

11 мая 1939 г. Польшча адмовілася ад заключэння пакта аб узаемнай дапамозе з СССР. Польскі ўрад быў супраць уводу савецкіх войск на яе тэрыторыю, каб не справакаваць вайну з Германіяй. Але самае галоўнае, польскі ўрад добра ўяўляў сабе, што абмежаваны кантынгент войск Чырвонай Арміі хутка ператворыцца ў неабмежаваны; што, пабудаваўшы тут ваенныя базы, аэрадромы, склады, часці Чырвонай Арміі замацуюцца на гэтай тэрыторыі. А пасля СССР, знайшоўшы зручную прычыну, зменіць на сваю карысць усходнюю граніцу Польшчы і наогул акажа "брацкую дапамогу" польскаму народу ў змяненні дзяржаўнага ладу краіны, як гэта потым адбылося ў краінах Прыбалтыкі. У Польшчы добра памяталі абвяшчэнне Польскай савецкай рэспублікі ў жніўні 1920 г., калі Чырвоная Армія падчас савецка-польскай вайны 1919—1920 гг. уступіла на польскую тэрыторыю.

Англія і Францыя, не чакаючы заканчэння палітычных перагавораў, паслалі ў Маскву ваенныя місіі, перамовы якіх з савецкай ваеннай місіяй (на чале з маршалам Варашылавым) пачаліся 11 жніўня 1939 г. Ужо 14 жніўня Варашылаў паставіў папярэднюю ўмову для заключэння дагавору аб узаемнай дапамозе і ваеннай канвенцыі аб узаемадзеянні — прапусціць савецкія войскі "праз польскую тэрыторыю, праз Віленскі калідор і Галіцыю, праз румынскую тэрыторыю", калі Польшча і Румынія дапамогі ў СССР і не запросяць (Документы и материалы по истории советско-польских отношений. М., 1973, т. 7, с. 133—136). У сувязі з гэтым польскі міністр замежных спраў Ю.Бэк заявіў англійскаму паслу ў Варшаве Г.Кенарду, што СССР спрабуе цяпер дамагчыся мірным шляхам таго, чаго савецкая Расія хацела дабіцца сілай зброі ў 1920 годзе. Перамовы паміж СССР, Англіяй і Францыяй былі спыненыя 21 жніўня 1939 г., калі Варашылаў заявіў аб адкладзе перамоў на неакрэслены тэрмін. Фактычна яны былі сарваныя, бо сітуацыя рэзка змянілася.

У жніўні 1939 г. Сталін ужо не вагаўся ў сваім выбары на карысць фашысцкай Германіі. Нягледзячы на тое, што англійскі і французскі бакі на ваенных перамовах пайшлі на ўступкі і нават спрабавалі зрабіць націск на Польшчу, згадзіліся падпісаць ваенныя канвенцыі аб узаемадзеяннях войск, Сталін вырашыў, што шляхам змовы з Германіяй можна будзе атрымаць ва Усходняй Еўропе вялікія "сферы ўплыву", і такім чынам далучыць тэрыторыі некалькіх краін. Таму кіраўніцтва СССР і сарвала перамовы.

Сталін яшчэ ў дакладзе XVIII з'езду партыі ў сакавіку 1939 г. двойчы заявіў, што СССР стаіць за ўмацаванне дзелавых сувязей з усімі краінамі. Гэты заклік да "супрацоўніцтва" Гітлер зразумеў. Яшчэ ў пачатку 1939 г. пачаўся абмен думкамі наконт гандлёвага дагавору паміж СССР і Германіяй. 3 мая 1939 г. на пасадзе народнага камісара замежных спраў быў заменены Ліцвінаў, прыхільнік дагаворанасці з заходнімі дэмакратычнымі краінамі супраць фашысцкай Германіі. Яго замяніў, захаваўшы сваю асноўную пасаду, старшыня Савета народных камісараў Молатаў, які, як і Сталін, быў прыхільнікам дамовы з Гітлерам. Прадстаўнікі савецкага ўрада некалькі разоў падкрэслівалі, што перадумовай рашэння эканамічных праблем з'яўляецца рашэнне палітычных узаемаадносін.

Германія рыхтавалася да вайны з Польшчай (рашэнне аб вайне было прынята Гітлерам 31 сакавіка 1939 г). У Берліне зразумелі, што трэба прапанаваць Маскве. Гітлер выкарыстаў жаданне Сталіна дасканала. 2 жніўня 1939 г. міністр замежных спраў Германіі Іахім фон Рыбентроп (дарэчы, ён не быў баронам, як няслушна пішуць нават некаторыя гісторыкі, і ён не быў дваранінам: спачатку ён быў гандляром віна, а ў 1925 г. дамогся ад свайго далёкага сваяка, двараніна, каб той усынавіў яго і даў прыстаўку "фон", хаця ўсынаўленне не давала права на дваранства) заявіў савецкаму часоваму паверанаму ў справах СССР у Германіі Астахаву, што Германія жадае перабудаваць узаемаадносіны з СССР. І што на ўсёй прасторы ад Балтыйскага да Чорнага мора няма праблемы, па якой нельга дамовіцца.

Спачатку Масква ўзважвала, з кім выгадней ёй дамовіцца — з Гітлерам або з Англіяй і Францыяй. Гэтая пазіцыя Сталіна вельмі ўсхвалявала Гітлера, бо набліжаўся вызначаны тэрмін нападу на Польшчу, а ў Маскве ўсё яшчэ працягваліся англа-франка-савецкія перамовы. Савецкі Саюз не быў зацікаўлены ў рэальных выніках гэтых перамоў. Яны былі патрэбныя Сталіну як алібі, каб апраўдаць потым змову з гітлераўскай Германіяй. Сталіну гэтыя перамовы былі патрэбныя, каб дабіцца большых уступак ад Германіі.

14 жніўня 1939 г. Рыбентроп даў указанне паслу Германіі ў СССР графу Фрыдрыху Вернеру фон Шуленбургу (у 1944 г. пакараны смерцю за ўдзел у змове супраць Гітлера), каб пасол паўтарыў Молатаву яго заяву Астахаву ад 2 жніўня. На наступны дзень Шуленбург перадаў прапанову Рыбентропа Молатаву. 17 жніўня Шуленбург паведаміў Молатаву, што Германія гатова заключыць пакт аб ненападзе і аказаць уплыў на Японію, якая знаходзілася ў стане ўзброенага канфлікту з СССР у Манголіі ў раёне памежнай ракі Халхін-Гол і возера Буір-Нур. Молатаву было заяўлена, што Рыбентроп гатовы ў кожны час прыбыць у Маскву з паўнамоцтвамі ад фюрэра весці перамовы і падпісаць адпаведныя дакументы.

Шуленбургу быў перададзены адказ: урад СССР выказаў задавальненне тым, што Германія гатова палепшыць палітычныя адносіны з СССР, але спачатку было прапанавана заключыць гандлёвы дагавор, а праз кароткі тэрмін і дагавор аб ненападзе, а таксама спецыяльны пратакол па праблемах балтыйскіх краін.

19 жніўня Шуленбург быў зноў прыняты Молатавым. Па даручэнні Рыбентропа ён заявіў, што адносіны паміж Германіяй і Польшчай пагаршаюцца і ў кожны момант могуць прывесці да канфлікту. Германія лічыць неабходным яшчэ да ўзнікнення канфлікту высветліць свае адносіны з СССР. Таму Рыбентроп зацікаўлены ў хутчэйшым прыездзе ў СССР з паўнамоцтвамі заключыць любое пагадненне, якое б толькі пажадаў савецкі ўрад. Ён таксама гатовы падпісаць асобны пратакол аб узгадненні сферы тэрытарыяльных інтарэсаў абедзвюх дзяржаў ва Усходняй Еўропе, перш за ўсё ў Прыбалтыцы. Праз некалькі гадзін Шуленбургу паведамілі, што Рыбентроп можа прыбыць у Маскву 26 ці 27 жніўня, калі будзе падпісана гандлёвае пагадненне.

А ў гэты час Германія ўжо заканчвала падрыхтоўку да нападу на Польшчу. Зразумела, смялей можна было б зрабіць гэты напад, падмацаваўшы сябе абавязацельствам СССР аб ненападзе на Германію. Таму Гітлер вырашыў паскорыць перагаворы з СССР. У той жа дзень, 19 жніўня 1939 г., у Берліне было падпісана савецка-германскае гандлёва-крэдытнае пагадненне тэрмінам на 7 гадоў. 19 жніўня ў Берлін быў перададзены праект савецка-германскага дагавора аб ненападзе, аднак дагавор мог быць падпісаны толькі пры ўмове адначасовага падпісання спецыяльнага пратакола па знешнепалітычных пытаннях, якія цікавяць абодва бакі.

Такім чынам, Сталін першым паставіў пытанне аб тэрытарыяльным перадзеле Усходняй Еўропы Савецкім Саюзам і Германіяй. Гэты тэкст праекта быў перададзены ў Берлін германскім паслом з Масквы тэлеграмай у 23 гадзіны 30 хвілін 19 жніўня, а ўжо 20 жніўня ў 16 гадзін 35 хвілін Гітлер адправіў з Берліна для перадачы Сталіну тэлеграму, у якой прасіў тэрмінова прыняць Рыбентропа ў Маскве, заключыць пакт аб ненападзе 22 ці 23 жніўня — і ў дадатак да пакту "пратакол, які жадае савецкі ўрад". Тэлеграма была атрымана 21 жніўня ў ОО гадзін 45 хвілін і ўручана нямецкім паслом Молатаву а 15-й гадзіне разам з перакладам, зробленым у пасольстве. Ужо ў 17 гадзін Молатаў уручыў Шуленбургу адказ Сталіна са згодай на прыезд міністра замежных спраў Германіі 23 жніўня. Адначасова праз пасла ў Берлін быў тэлеграмай дасланы адказ Сталіна Гітлеру.

23 жніўня Рыбентроп самалётам прыбыў на Цэнтральны аэрадром Масквы. У той жа дзень у Крамлі прайшлі перамовы. Позна ноччу яны скончыліся падпісаннем дагавору аб ненападзе паміж СССР і Германіяй на 10 год. Падпісалі дагавор Молатаў і Рыбентроп. Яны ж падпісалі і сакрэтны пратакол. Подпісы былі пастаўлены ўжо ноччу, але дату захавалі таго дня, у які вяліся перамовы, — 23 жніўня 1939 года. З такой датай дакументы і ўвайшлі ў гісторыю. Быў наладжаны банкет, падчас якога Рыбентроп прапанаваў тост за мудрага кіраўніка СССР Сталіна, а Сталін абвясціў свой тост: "Я ведаю, як моцна нямецкі народ любіць свайго фюрэра, і я б хацеў выпіць за яго здароўе!"

І дагавор аб ненападзе, і сакрэтны пратакол, які звязваў Германію і СССР у іх тэрытарыяльных захопах, аблегчылі Гітлеру галоўную задачу: напад на Польшчу, а потым захоп і іншых еўрапейскіх краін.

У сакрэтным пратаколе было запісана: "1. У выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэнняў у абласцях, якія належаць прыбалтыйскім дзяржавам (Фінляндыі, Эстоніі, Латвіі, Літве), паўночная мяжа Літвы будзе з'яўляцца рысай, якая падзяляе сферы ўплыву Германіі і СССР. У сувязі з гэтым зацікаўленасць Літвы ў раёне Вільні прызнана абодвума Бакамі.

2. У выпадку тэрытарыяльных і палітычных пераўтварэнняў у абласцях, якія належаць Польскай дзяржаве, сферы ўплыву Германіі і СССР будуць размежаваныя прыблізна па лініі рэк Нараў, Вісла і Сан.

3. Датычна Паўднёва-Усходняй Еўропы Савецкі бок паказаў на сваю зацікаўленасць у Бесарабіі. Нямецкі бок ясна заявіў пра поўную палітычную незацікаўленасць у гэтых тэрыторыях".

Праз месяц, праўда, Сталін абмяняў з Гітлерам усходнія раёны Польшчы на Літву.

Сакрэтны пратакол застаўся сакрэтным для савецкіх грамадзян. Для іншых ён адразу стаў вядомым. Пра змест гэтага пратаколу адразу ж даведаўся французскі пасол у Берліне Кулондр і 24 жніўня (фактычна ў дзень падпісання) паведаміў пра яго ў Парыж. 24 і 25 жніўня пра пратакол паведамілі ў Рым італьянскія паслы ў Маскве і Берліне. Рашэнне аб падпісанні сакрэтнага пратакола нават не разглядалася на палітбюро ЦК ВКП(б). Сталін прыняў рашэнне, паведаміўшы аб гэтым толькі двум-тром сваім паплечнікам.

Такім чынам, дагавор аб ненападзе і сакрэтны пратакол да яго далі магчымасць Гітлеру распачаць другую сусветную вайну і фактычна прадвырашылі лёс народаў Усходняй Еўропы. Па сутнасці, гэта была змова двух дыктатараў аб падзеле тэрыторый суверэнных дзяржаў, грубае парушэнне імі падпісаных раней міжнародных дагавораў, прынцыпаў і норм міжнароднага права, а потым і анексію вызначаных Гітлерам і Сталіным тэрыторый. Абодва дыктатары не лічыліся ні з воляй, ні з жаданнямі народаў, лёс якіх яны вырашалі.

Нават далучэнне Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны да БССР і УССР было другасным для дыктатараў. Абодва разглядалі гэтыя тэрыторыі з пункту гледжання сваёй імперскай палітыкі. Для беларускага народа другая сусветная вайна пачалася не 22 чэрвеня 1941 года, а ў верасні 1939 года, калі нямецкія самалёты бамбардзіравалі гарады Заходняй Беларусі; калі нямецкія войскі падчас польскай кампаніі паспелі захапіць самыя заходнія раёны Заходняй Беларусі; калі яны штурмавалі (з дапамогай савецкай артылерыі) польскі гарнізон Брэсцкай крэпасці. Жыхары Заходняй Беларусі паспелі пабачыць і сумесныя вайсковыя парады пераможцаў, як, напрыклад, было ў Брэсце, дзе сумесны парад прымалі нямецкі генерал Гудэрыян і савецкі камбрыг (потым — генерал-лейтэнант) Крывашэін.

...Перанясенне мяжы далей на Захад у 1939 годзе не дало Савецкаму Саюзу стратэгічнай перавагі. Савецкія войскі атрымалі загад ад Сталіна не спяшацца з пабудовай новых умацаванняў уздоўж новых рубяжоў, каб не правакаваць немцаў. Сапраўдных умацаванняў на новай мяжы не было. У 1941 г. вермахт прарваўся праз яе без вялікіх цяжкасцяў. А на старой граніцы ўмацаванні былі ўжо дэманціраваныя.

Напад фашысцкай Германіі на СССР у 1941 годзе быў таксама прадвырашаны ў 1939 годзе змовай Гітлера і Сталіна. Германія ўзмацнілася да кошт захопу рэсурсаў і тэрыторыі еўрапейскіх краін, і яна магла ўжо на шляху да сусветнага панавання пачаць вайну супраць СССР. Цяжкімі стратамі заплацілі народы Савецкага Саюза за палітыку кіраўнікоў СССР, і перш за ўсё — Сталіна. Другая сусветная вайна шмат у чым змяніла і палітычную карту Еўропы, і лёс яе народаў.

## Визит Леонида Кучмы в Беларусь переносится на неопределенный срок

Визит президента Украины Леонида Кучмы в Беларусь переносится на неопределенный срок. Как сообщалось ранее, его встреча с Александром Лукашенко должна была состояться в Бресте в начале сентября (по некоторым сведениям — 1—2 сентября).

В посольстве Украины в Минске БелаПАН сообщили, что в ближайшие дни визит Кучмы в Беларусь не состоится. Более того, сотрудники посольства отметили, что в настоящее время даже не занимаются вопросами подготовки визита украинского президента и не могут сказать, когда этот визит все-таки состоится.

**Юрий АЛЕКСЕЕВ, БелаПАН.**

Открытым текстом

## Бензиновый голод из-за глупости чиновников

Вот и наступило уже одно "счастливое" настоящее, а не будущее, как говорил наш президент в одном из своих интервью. Всю неделю не могу заправить свою автомашину бензином АИ-92, которую обычно заправлял на АЗС, расположенной поблизости на Логойском тракте. Только и слышу от работников бензозаправки, что отпуск бензина прекращен "до особого распоряжения".

Бензиновый голод стал реальным из-за стратегического просчета государственных руководителей, отказавшихся от участия в совместном строительстве нефтепровода, соединяющего два моря — Черное и Балтийское, проходящего через нашу территорию и подпитывающего нас нефтью. Эффективность этого мероприятия, насколько мне известно, была доказана. Она жизненна как сейчас, так будет жизненна и в дальнейшем. Да и кто в мире (при разумном подходе к решению какой-либо проблемы) зацикливается в ее решении на одном источнике?

Как видим, есть у нас разумные головы. Только не они решают проблемы в стране. А те, кто призван их решать, не решают их то ли по неспособности своей, то ли по нежеланию, надеясь в таком экстраважном государственном деле, как поставка нефти и нефтепродуктов, на старшего "брата", который сам уже давно живет по принципу: "Хоть ты и брат мой, но ешь хлеб свой". Пока еще не поздно, нам нужно самим выступить с инициативой поставки нефтепродуктов из других, кроме России, источников, тем более что Россия дает нам их почти по мировым ценам. Только такие действия в конечном итоге приблизят нас к наступлению "счастливого будущего" и обеспечат бензином.

**Виктор Иванович БАЛУЕВ, доцент, пенсионер.**

Конкурс

## Кто станет старейшим пчеловодом?

С 12 по 19 сентября 1999 года в Канаде, в городе Ванкувере, состоится последний в этом столетии и тысячелетии XXXVI Конгресс Апимондии (Международной пчеловодческой организации). Приглашение участвовать в нем получили все страны, которые являются членами этой организации.

Во время Конгресса будет проводиться выставка-продажа современного пчеловодческого оборудования и инвентаря, лекарственных препаратов, изготовленных на основе продуктов пчеловодства, демонстрироваться любительские фильмы о пчеловодстве. Запланированы также экскурсии на промышленные пасеки и фирмы, которые занимаются переработкой продуктов пчеловодства. Будут заслушаны выступления ведущих специалистов в области пчеловодства.

Международной пчеловодческой организацией принято решение назвать 1999-й годом пчеловодства.

Подчеркивая важность мероприятия, проводимого Международной организацией пчеловодов, в Республике Беларусь проводится конкурс на звание старейшего пчеловода страны. Среди пчеловодов старше 80 лет распространяется анкета-опрос. Старейшим пчеловодом будет признан тот, кто окажется старше по возрасту, имеет в наличии самую крупную пасеку и осуществляет за ней активный уход. Победителю будет вручен приз — комплект пчеловодческого инвентаря.

**Информация будет приниматься до 30 сентября 1999 года по адресу: 25710, г.Пинск Брестской области, ул.Фабричная, 2. Николаю Николаевичу Качановскому.**

Громкое дело

## Сегодня Леонов по ту сторону решетки. А завтра?

Что будет говорить этот маленький человечек о своем деде, когда вырастет? Думается, что тогда пребывание под стражей экс-министра сельского хозяйства Василия Леонова станет уже историей, передающейся из поколения в поколение. Скорей всего, он будет гордиться своим дедом. Интересно, а как будут чувствовать себя внуки тех, кто судил Леонова, кто посадил его в железную клетку?

**Фото IREX/ProMedia.**

SOS!

## Торговать на Комаровском рынке стало невмоготу

Уважаемая редакция!

По понятным мотивам решили не называться, потому как дорожим еще пока своими рабочими местами. А свой рассказ хотелось бы назвать так — "Черные будни предпринимателей на ГП "Комаровский рынок".

Предпринимателям всегда жилось не очень легко, но в последнее время — невероятно трудно. С приходом последнего директора стало вообще невмоготу. Посудите сами: аренда за половину холодильного прилавка стоит 13 млн. 450 тыс. рублей, и с каждым месяцем она неуклонно растет. За любое нарушение, пусть оно и не очень серьезное (отсутствие у продавца нагрудного знака или градусника в прилавке), штраф 1 млн. рублей. Вот бы такую муштру в наши госмагазины, где и внешний вид продавцов, и чистота прилавков оставляют желать лучшего.

Давно ходили слухи о том, что холодильное оборудование, оставшееся еще после ухода прежнего директора, будут менять. Половину старых прилавков прежнее руководство постаралось заменить без сборов с работающих на них людей. Может, какая-то часть денег и была удержана за счет повышения аренды, услуг и т.д., но прошло это все как-то безболезненно для всех. Ну а сейчас на собрании предпринимателей сам директор поставил их в известность о возможности замены старых прилавков на новые холодильники. Но как! Каждый, кто хочет и дальше иметь рабочее место, обязан заплатить рынку ни много ни мало — 1200 долларов (?!). И деньги эти должны быть только в "зелененьких". Никаких документов на право собственности на этот прилавок после внесения денег не будет! И половина так называемого твоего прилавка уже сразу принадлежит рынку. Если же вас это не устраивает, никого, мол, не держим! Придут люди, которые хотят работать!

Конечно, простому частному предпринимателю с фирмами не тягаться. Но никому никакого дела. Срок дан до 1 ноября. Как же быть?

**С уважением — предприниматели ГП "Комаровский рынок".**

**От редакции.**

*Сколько перьев сломано вокруг всяких историй, связанных с Комаровским рынком. Мы не исключаем, что на этот раз есть что сказать не только частным предпринимателям, но и многим другим, кто так или иначе связан с ГП "Комаровский рынок".*

*Пишите, звоните, рассказывайте...*

Акцыя

## ТБМ — за беларускамоўную адукацыю

**Сёння ў Міхайлаўскім скверы ў 17.00 Таварыства беларускай мовы праводзіць пікет за адукацыю на роднай мове. А 8 верасня ў такі ж час — мітынг "За адкрыццё беларускага нацыянальнага універсітэта". Ён будзе праходзіць ля Палаца чыгуначнікаў, што па вуліцы Чкалава.**

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

## Кожныя 9—10 хвілін у краіне ўчыняецца крадзеж

У студзені—ліпені 1999 года ў Беларусі зафіксаваны значны рост злачыннасці: у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам, колькасць зарэгістраваных злачынстваў узрасла на 7,5 працэнта і дасягнула 75,9 тысячы. У прыватнасці, узрасла колькасць такіх злачынстваў, як махлярства (на 33 працэнты), крадзяжы (на 14,8), хабарніцтва (на 7,8), грабеж (на 6), хуліганства (на 5,5), наўмыснае забойства і замах на забойства (на 1,3 працэнта).

Разам з тым прыкметна знізілася колькасць зарэгістраваных выпадкаў згвалтаванняў і замахаў на згвалтаванне (на 8,7 працэнта) і злачынстваў, звязаных з наркотыкамі (на 10,6 працэнта). Пра гэта БелаПАН паведамілі ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу. У разліку на 10 000 насельніцтва ўчынены 74 злачынствы. Самы распаўсюджаны від — крадзяжы; іх доля ў агульнай колькасці злачынстваў дасягае 44 працэнты. У сярэднім кожныя 9—10 хвілін у Беларусі ўчыняецца адзін крадзеж.

З 39,7 тысячы асоб, якія ўчынілі злачынныя дзеянні, 12 працэнтаў — падлеткі, 21 працэнт — жанчыны. Раскрывальнасць злачынстваў па выніках сямі месяцаў склала 71 працэнт.

**Сяргей СНЕГІН.**

Событие

## Восстающая из пепла

Неординарное событие произошло в Заславле накануне Яблочного Спаса. Вновь зазвучали колокола Спасо-Преображенской церкви. Благодаря Богу и добрым людям, которые помогли оплатить расходы по изготовлению колоколов, прихожане и светские люди услышали неповторимый и волнующий призыв из храма. Все колокола, от самого маленького в четыре килограмма и до самого большого — в двести десять килограммов, были изготовлены на московском ЗИЛе. Том самом, который лил колокола для храма Христа Спасителя.

Три года назад, 19 октября 1996 года, этот памятник архитектуры горел от рук каких-то варваров. Ущерб от огня был колоссальный, его последствия не устранены и по сей день. Как не найдены по сей день и те вандалы, которые утворили это бесчинство. И, к сожалению, следствие по уголовному делу приостановлено...

А время — лекарь... Постепенно храм возрождается из пепла. Правда, реставраторы попались несерьезные. На полпути "сошли с дистанции". Теперь приход во главе с настоятелем церкви отцом Николаем ждет решения "Белгосреставрации". Ждут и надеются, что найдется компетентный подрядчик с лицензией на право проведения реставрационных работ.

Впереди зима и новые проблемы. Помещение не отапливается. Требуется современная отопительная установка или подводка газа. Средств нету. Меценаты! Откликнитесь!..

Но... Несмотря ни на что, проводятся богослужения. Не стал исключением и нынешний праздник Преображения Господня. Люди идут в храм... Покаяться, очистить душу во время поста. И конечно же, как принято, освятить яблоки, поблагодарить Бога за собранный урожай и помолиться за будущий.

**Татьяна ГАЦУРО.**

**На снимках:** *настоятель Спасо-Преображенской церкви отец Николай освящает новые колокола; освящение фруктов на праздник Преображения Господня; нынешний вид церкви.*

**Фото автора.**

## Моладзь за вольную Беларусь!

27 жніўня ў Маладзечне ў гарадскім парку ладзіўся дазволены гарвыканкамам рок-канцэрт "Моладзь за вольную Беларусь". У ім бралі ўдзел гурты "NRM", "Gods", "Tower", "Зьніч", "Без білета", "Аўтаномія", "Happy Face". Мерапрыемства было арганізавана маладзёжным клубам "Грунвальд" (Маладзечна) пры ўдзеле маладзёжнай ініцыятывы "Беларуская музычная альтэрнатыва group".

Падчас канцэрта мясцовая міліцыя праводзіла затрыманне моладзі, што прыйшла на імпрэзу. Паводле афіцыйных даных, было затрымана каля 35 чалавек. Прысутныя журналісты і арганізатары сталі сведкамі таго, як падлеткаў 14—15 гадоў затрымлівалі за тое, што яны маюць на поясе ланцужкі. На думку міліцыі, гэта была "халодная зброя". А па сцвярджэнні аднаго лейтэнанта, "ланцужкі-упрыгожанні павінны быць залатымі і іх трэба насіць на шыі".

"За непрыстойныя паводзіны" (моладзь скакала і спявала разам з любімымі гуртамі) некалькі чалавек, у тым ліку і арганізатары, былі затрыманыя. Своеасаблівыя меры ўздзеяння былі прымененыя да музыкаў-удзельнікаў: гурту "NRM" не далі часу адагнаць машыну і "за недазволеную паркоўку" знялі нумары; саліста гурта "Happy Face" аштрафавалі на 500 000 рублёў за тое, што ён са сцэны дазволіў сабе праілюстраваць уласныя адносіны да дыктатуры, узняўшы сярэдні палец правай рукі.

Паставіўшы ў віну арганізатарам невыкананне абавязкаў, маладзечанскія ўлады загадалі скараціць працягласць імпрэзы на дзве гадзіны, паведаміўшы пра гэта толькі падчас канцэрта. Але адпаведны загад мэра так і не быў прадстаўлены арганізатарам. Сведкамі ўсіх падзеяў у парку сталі каля 2000 слухачоў, якія прыйшлі на акцыю "Моладзь за вольную Беларусь".

Падзеі, якія разгортваліся падчас і пасля канцэрта, "БМАgroup" расцэньвае як прамое парушэнне грамадзянскіх свабодаў моладзі. Улады яшчэ раз прадэманстравалі сваё негатыўнае стаўленне да ўсіх маладзёжных ініцыятываў, якія не падпадаюць пад іх кантроль. Любыя праявы вальнадумства разглядаюцца як злачынства, якое скіравана супраць грамадства. Гэткай жа пазіцыі прытрымліваецца рэжым адносна беларускай рок-культуры — аднаго з асноўных носьбітаў ідэяў дэмакратыі. Складаецца ўражанне, што існуючы рэжым толькі і здатны да безупынных дэкларацыяў пра пабудову дэмакратычнага грамадства, бо праяўляе яскрава таталітарныя рысы. Але варта памятаць, што пры палітыцы пастаяннага ціску і забаронаў рана ці позна спрацуе эфект спружыны. Асабліва актуальна гэта для моладзі.

**Вітаўт МАРТЫНЕНКА.**

## Не лает, не кусает, а домой не пускает

У старой загадки появилась новая история. От хулиганья, воров и осквернителей лифтов решили в многоэтажках установить кодовые замки на подъездные двери.

Обходится это удовольствие недешево. Отказавшимся платить разъясняют, что система к его квартире подключаться не будет, и тогда придется самим спускаться вниз и открывать двери гостям.

Такое вот насилие, не осознанное многими. Жильцам надо оплатить стоимость замка, ежемесячно определенная плата будет взиматься на его ремонт, по словам ЖЭКа, завод дает гарантию на один год. Деньги можно отдавать не сразу. Но каждому ли сегодня под силу даже за полгода расплатиться за установку кодового замка? Это большие деньги для пенсионеров, инвалидов и просто одиноких людей. И они упираются, отнекиваются на требовательное "надо!" ЖРЭО. Неужели домоуправлениям кажется, что подобными мерами можно изменить людей и сохранить чистоту в подъездах? Но если жильцы пьянствуют и хотят позвать к себе друзей для компании, то они сообщат им код, и замок не будет помехой. Человека нужно воспитывать, чтобы он прежде всего не замышлял плохое. Но пока его так не воспитывают, то сколько замков на входную дверь в подъезде ни ставь, люди по-прежнему будут выбрасывать мусор из окон, рассыпать его на лестничных площадках и мочиться при входе в подъезд...

Между тем существует такая форма общего домовладения, как кондоминиумы, о чем начальникам ЖЭКов давно известно. Смысл ее в том, что средства, которыми распоряжается такое объединение собственников, складываются из взносов его членов. Деньги поступают не на общий счет городских жилищно-эксплуатационных организаций, а на счет товарищества и расходуются по его решению. На ремонт, хорошую уборщицу и поддержание чистоты в подъездах. С замком же ЖЭКу проще: поставил и не надо работать с людьми...

А может быть, причина введения кодовых замков вообще в том, что на заводе их перепроизводство? И ЖЭКи, не спрашивая людей, снимают старые деревянные двери, ставят новые — металлические и только потом, как безграмотных недоумков, ставят нас в известность, что за вход в собственный дом нужно платить. А железные двери (без амортизации), конечно, громыхают, не давая людям заснуть вечером, и будят утром, словно взывая к человеческому разуму: когда же вы будете жить по-человечески, чтобы обои были на стенах подъездов, как у немцев, зеркала в лифтах, как у американцев, и идеальная чистота, как во всей Европе?

**Марина ЖУКОВА.**

## Значная частка навукова-тэхнічных распрацовак незапатрабаваная

Значная частка ствараемай у Беларусі навукова-тэхнічнай прадукцыі застаецца незапатрабаванай на стадыі асваення. Пра гэта сведчаць даныя, атрыманыя БелаПАН з афіцыйнай крыніцы.

Так, у адпаведнасці з дзяржаўнымі навукова-тэхнічнымі праграмамі і асобнымі праектамі, ў 1998 годзе было распрацавана і даведзена да стадыі практычнага асваення 1125 аб'ектаў — машын, абсталявання, прыбораў, матэрыялаў, тэхналагічных працэсаў. Большасць з іх перавышае лепшыя айчынныя аналагі, а асобныя распрацоўкі могуць канкурыраваць з аналагічнымі замежнымі. Аднак толькі 22 працэнты распрацовак знайшлі сваё прымяненне ў серыйнай вытворчасці. Падрыхтаваны да вытворчасці былі 52 працэнты распрацовак, адзінкавыя вопытныя ўзоры або вопытныя партыі створаны па 25 працэнтах новых аб'ектаў. Асноўная прычына такой незапатрабаванасці — не заўсёды высокі навукова-тэхнічны ўзровень распрацовак. Да прыкладу, у 1998 годзе з 713 завершаных заданняў дзяржаўных навукова-тэхнічных праграм патэнты былі атрыманы толькі па 16 працэнтах, пададзены заяўкі на патэнтаванне — па 19 працэнтах. З 92 завершаных праектаў атрыманы толькі адзін патэнт і пададзены дзве заяўкі. Спецыялісты лічаць, што на ўзроўні распрацовак адбіваецца слабая ўвязка рэспубліканскіх інавацыйных праектаў з інвестыцыйнымі праграмамі развіцця галінаў, а таксама адсутнасць дзейснага механізму стымулявання на канчатковай стадыі рэалізацыі праектаў.

**Алесь КНЯЗЮК.**

## В газете "Известия" появится страница, посвященная белорусской проблематике

Руководство популярной российской газеты "Известия" намерено выделить одну страницу в ежедневном белорусском тираже издания под республиканскую проблематику и вопросы белорусско-российской интеграции. Ожидается, что в новом виде газета начнет выходить уже в сентябре—октябре.

Реализовывать проект будут корпункт издания в Минске и издатель газеты на территории республики — ЗАО "БелКП-Пресс", которое также представляет в Беларуси интересы российской "Комсомольской правды".

**Олег СОКОЛОВ.**

